Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Цана асобнага № 50 грошы.



# БЕЛАРУСКАЯ БОРЦЬ

Адрэс Рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Карапеўская вул. 3 — 8.

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 10 да 14 гадз.

Падпісная плата: на год 5 зл., на паўгоду — 2 зл. 50 гр., на 3 мес. — 1 зл. 50 гр.

Заграніцу — удвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

## ЗЬМЕСТ:

1) У еднасьці сіла.
2) У зімовы час.
3) Хваробы і ворагі пчолаў.
4) „Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду".
5) З досьледаў над змыслам зроку ў пчол.
6) Калі і як зрэзываць прышчэпы.
7) Як залажыць кампосную кучу.
8) Зёлкі, на якія ёсьць запатрэбаваньне.
9) Зайцы ў садзе.
10) З чужога жыцьця і прэсы.
11) З нашага жыцьця.
12) З выдавецкае нівы.
13) Пісьмо ў рэдакцыю.
14) Паштовая скрынка.
15) Абвесткі.

# Ад адміністрацыі.

Адміністрацыя вельмі перапрашае Паважаных гр. Падпішчыкаў за спозьненьне гэтага нумару і зазначае, што адказным за спазьненьне зьяўляецца друкарня, якая ўпару ня споўніла заказу.

Наступны нумар падвойны (за студзень і люты) выйдзе ў першай палове лютага.

**АДМІНІСТРАЦЫЯ.**

# Беларуская Борць

**Месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак**

**№ 7 (12)** **СЬНЕЖАНЬ 1935 г.** **ГОД II.**

*Усіх нашых падпішчыкаў і прыхільнікаў шчыра вітаем з Новым Годам і шлем усім найлепшыя пажаданьні.*

**Рэдакцыя і Адміністрацыя.**

## У еднасьці сіла.

Вельмі часта як у польскай прэсе, так і ў штодзенным жыцьці прыходзіцца спатыкацца з адным і тым самым зьявішчам — поўным ігнараваньнем інтарэсаў беларускага народу, запярэчаньнем істнаваньня такіх інтарэсаў, (а нават запярэчаньнем факту істнаваньня беларускага народу), як дзейніка ў гаспадарчым і грамадзкім жыцьці на нашых землях.

Ня буду ўжо гаварыць аб антыбеларускіх выступленьнях польскае абшарніцка-манархічнае ці шовіністычнае прэсы; яны, кіруючыся клясава-абшарніцкай ідэалёгіяй, або зоолёгічным нацыяналізмам, інакш паступаць і ня могуць. Дзіўным затое выглядае такія адносіны з боку тых польскіх грамадзкіх арганізацыяў, якія гэтых уласьцівасьцяў, здавалася-б, не павінны мець.

З пчалярскае прэсы за лістапад даведываемся, напр., што ў 1936 годзе мае адбыцца ў Польшчы Агульнапольскі Пчалярскі З'езд, на які ўжо запрошаны і ўкраінскія пчалярскія арганізаціі. Беларускіх-ж арганізацыяў зразумела ніхто не падумаў нават і паведаміць аб Зьездзе. А можа польскія пчалярскія цэнтралі ня ведаюць аб існаваньні беларускіх пчалярскіх арганізацыяў? Або наша пчалярства ня мае ніякага значэньня, у гаспадарчым жыцьці краю і таму не патрэбна наша апінія?

Добра ведаюць польскія цэнтралі аб нашым істнаваньні, нават, калі ім патрэба, зносяцца з намі; і пчалярства ў Заходняй Беларусі зьяўляецца досыць паважным дзейнікам у гаспадарчым жыцьці краю, да голасу якога варта было бы прыслухацца.

Нам ня ходзіць тут зусім аб гонар быць запрошанымі на Зьезд. Парушаем гэтую справу толькі дзеля таго, каб паказаць адносіны да нас польскае арганізацыі і пры гэтым ня шовіністычнае.

А вось і другі факт. Ня гэтак даўна адбыўся шэраг павятовых конфэрэнцыяў, а 26 лістапада і агульны сход акружнога саюзу землясробскіх і зарабкова-гаспадарчых коопэратываў у Вільні. Саюз гэты паўстаў у выніку новага коопэратыўнага закону і павінен ахапіць усе коопэратывы землеробаў

і рэмесьнікаў у Віленскім і Наваградзкім ваяводзтвах, апрача коопэратываў спажывецкіх, якія ўваходзяць у саюз „Сполэм“. Ніякія іншыя коопэратыўныя саюзы ў гэтых галінах у сілу самага закону, на нашых землях паўстаць ня могуць. Здавалася-бы, што ў коопэрацыі, гэтым самым дэмакратычным грамадзкім руху, дэлегаты нізавых арганізацыяў павінны мець права высказываць на гэтакіх зьездах свае ўвагі, свае пажаданьні, але ня быць безгалоснымі ўдзельнікамі сходу патрэбнымі „ўладам“ Саюзу дзеля выбараў і пры гэтым выбараў толькі такіх асобаў, якія зьяўляюцца пажаданымі, пэўным асобамі, а ня справе. На гэтых конфэрэнцыях і зьездзе, паводле слоў дэлегатаў, нажаль было так. Кіраўніцтва саюзу не прызнавала за дэлегатамі гэнага права і таму выклікала зразумелае агульнае незадаволеньне.

Мы, беларусы, ня можам пагадзіцца з гэтакім вядзеньнем коопэратыўных зьездаў, ня можам згадзіцца і на тое, каб справамі, якія датычацца нашага гаспадарчага і грамадзкага жыцьця кіравалі бяз нашага ўдзелу, а часта нават людзі зусім чужыя, якія ня ведаюць варункаў нашага жыцьця. Забіраем голас у гэтай справе дзеля таго, што мы беларусы пазбаўленыя ўласнага коопэратыўнага саюзу, а нават і ўласных мяйсцовых коопэратыўных арганізацыяў, змушаны ісьці ў агульныя польскія коопэратыўныя арганізацыі і саюзы і хочам толькі, каб у гэтых арганізацыях хоць панаваў праўдзівы коопэратыўны дух.

Калі глыбей прызадумацца над парушаным пытаньнем, дык з сумам прыходзіцца прызнацца, што значная частка адказнасьці за гэтакі стан рэчаў ляжыць на нас саміх. З намі ня лічуцца, нас не прызнаюць толькі дзеля таго, што мы не зарганізаваныя, што ня маем сваей арганізацыі, якая моцна і аўтарытэтна магла-б выступіць у абарону нашых правоў. Найлепшым доказам гэтага зьяўляецца прыклад нашых бліжэйшых суседзяў украінцаў. Там мы бачым, што мяйсцовае украінскае насельніцтва, дзякуючы зарганізаванасьці, бярэ дзейны ўдзел ува ўсіх галінах гаспадарчага ці грамадзкага жыцьця і калі трэба, дык арганізавана выступае ў абарону сваіх правоў, калі пагражае ім якая небудзь небясьпека.

Калі мы беларусы хочам, каб у нашых уласных справах быў выслуханы наш голас, каб мы мелі ўплыў на вырашэньне гэтых спраў, ці то коопэратыўных, ці пчалярскіх, ці самаўрадавых, ці якіх іншых, дык павінны зразумець, што бяз уласных беларускіх арганізацыяў мы гэтага права не дабьемся. Трэба памятаваць, што ўваходзячы ў розныя агульнапольскія арганізацыі, мы толькі распыляемся, зьнясільваемся і дапамагаем гэтым нас вынарадаўляць.

Нельга рабіць так, як робяць некатарыя з нашых пчаляроў, які, лічучы сябе „свядомымі“ беларусамі, ігнаруюць сваю пчалярскую арганізацыю, сваю прэсу, а ідуць супрацоўнічаць у чужыя саюзы і чужыя часапісы

Кожны беларус павінен зразумець, што толькі праз уласныя беларускія арганізацыі і саюзы мы зможам бараніць інтарэсы і правы Беларускага Народу, што толькі творачы гэтакія арганізацыі можна змусіць, каб з намі лічыліся. Арганізаваньне беларускіх коопэратываў, уваходжаньне ў істнуючыя коопэратывы і арганізацыі, як Т-ва „Пчала“, Беларускі Коопэратыўны Банк, Т-ва Беларускае Школы і іншыя, тварэньне акружных і агульнабеларускіх саюзаў гэтых устаноў, вось той шлях, якім павінна ісьці сьвядомае беларускае грамадзянства. Толькі зарганізаваныя мы будзем прадстаўляць сілу, з якой будуць лічыцца.

Трэба памятаваць, што толькі ў еднасьці і арганізацыі наша сіла.

**М. Манцэвіч.**

Л. ВОЙЦІКАВА

# У зімовы час.

Зімуючы пчол ці то на дварэ, ці ў зімоўцы, мусім ім перадусім запэўніць бязумоўны спакой.

На дварэ пільнуем, каб паміж вульлямі не хадзілі коні, каровы ды сьвіньні, а таксама не павінны мець туды доступ куры, ды індыкі. Першыя могуць перавярнуць вульлей ці хацяб зварушыць яго, ад чаго пчолы разыйдуцца з зімовага клубка і зьгінуць ад холаду. Розныя птушкі скачуць на вульлі і таксама непакояць гэтым пчол.

Трэба таксама помніць аб дзікіх птушках, якія любяць нападаць на пчолы зімовай парой, асабліва калі пчальнік знаходзіцца блізка лесу. Неабходна іх адганяць, паставіўшы ці завесіўшы выпхавую варону ці шуляка.

У зімоўцы пчолы маюць звычайна запэўняны спакой, паскольскі зімоўка збудаваная, як трэба, здалёк ад гаспадарскіх будыкаў.

Пчолы зімуючыя на дварэ ня шмат апекі патрабуюць ў зімовую пару. Трэба аднак пасьля кожнай веі паглядзець ці не пазатыкаў вылетаў сьнег ды наагул прынамсі 2 разы ў месяц прачысьціць вылеты ад апаўшых на дно вульля пчол, каб запэўніць добры доступ сьвежага паветра да гнязда.

Маючы ў зімовую пару шмат вольнага часу, трэба прыгатаўляцца загадзя да новага сэзону: рабіць і напраўляць вульлі, рабіць рамкі, кармушкі, пературапліваць вашчыну, каб ужо ў концы сакавіка перарабіць яе на вузу.

Але гэтага мала. Трэба ня толькі павялічыць і ўпарадкаваць свой гаспадарчы інвэнтар, але гэтак сама павялічыць свой інвэнтар умысловы, гэта значыць сваю веду і сваё разьвіццё. Гэта можна зрабіць чытаючы адпаведныя кніжкі і часапісы. Есьць пчаляры—селяне, земляробы, ёсьць цэлыя вёскі, якія ніколі нічога ня чытаюць, ня маюць ніякага часапісу, ніякай гаспадарчай літэратуры. Кажуць: няма за што выпісаць. Проста ня верыцца, каб вёска не магла злажыцца на адну хацяб падпіску... Як чалавек можа дайсьці да лепшых рэзультатаў у сваей гаспадарцы, як знойдзе выхад са сваей бяды, калі ён як сьляпы топчацца на мейсцы. А толькі навука, толькі адпаведная літэратура адчыніць нам вочы, пакажа сьвет. Дык, браты —пчаляры, ня трацьце дарма ніводнага зімовага вечара. Зьбірайцеся групам, выпісывайце і чытайце „Бел. Борць".

Абгаварывайце зацікавіўшыя Вас артыкулы. Але не шкадуйце і не захоўвайце ў сакрэце і сваей уласнай практычнай веды. Аб кожным сваім спасьцяражэньні, кожным найменьшым „вынахадзе" пішыце ў рэдакцыю „Бел. Борці". Толькі супрацоўніцтва пчаляроў— практыкаў зробіць „Борць" сапраўды цікавай і жывой.

Яшчэ раз залікаючы нашых пчаляроў і земляробаў да выкарыстоўваньня зімовага часу дзеля самаасьветы, каньчаем славамі нямецкай пчалярскай часапісі „Deutscher Imkerführer".

„Падручнік і пчалярская газэта надобныя да сокаў, якія плывуць па цэлым дрэве да найвышэйшых вярхоў і галінак, і лісткам прыносяць жыцьцё і жыцьцё разьвіваюць далей; калі сокі перастануць плыць, дрэва вяне, перастае радзіць і памірае. Хто, як пчаляр хоча быць жывым сябрам, ня толькі сваей арганізацыі, але і гаспадаркі нямецкай наагул, мусіць у фаховай літэратуры шукаць новых штуршкоў і новага жыцьця".

М. ЯКІМЕЦ.

# Хваробы і ворагі пчолаў.

(працяг).

## Торбачная пошасьць.

Хвароба гэтая ў Эўропе спатыкаецца спарадычна, часьцей у Амэрыцы Прычынаю яе зьяўляецца так дробны заразак, які фільтруецца праз найлепшыя фільтры і якога ня можна ўбачыць пад найлепшым мікраскопам. Хвароба гэтая ёсьць заразная, бо калі здаровай сям'і дамо цукровага сыропу, або мёду з расцёртаю хвораю на гэтую хваробу чарвою, дык яна захварэе.

Досьледы паказалі. што заразка гэтая гіне у вадзе 60°С. у працягу 10 мінут. У мёдзе можа жыць некалькі месяцаў, а на сонцы гіне па 6 днёх. Інкубацыйны час трывае 5—6 дзён. Чарва памірае запячатаваная на 7—9 дзень свайго жыцьця. Скурачка памершага чарвячка не распадаецца, але цьвярдзее, а пад ёй зьбіраецца вадзяністая маса, якая аддзяляе чарвячка ад скурачкі. Чарвячок выглядае як у торбачцы. Адсюль гэты назоў.

Коляр памершага чарвячка бывае спачатку жоўты, потым штораз цямнее і робіцца цёмна-бранзовым, а часамі нават чорным. Галоўка чарвячка бывае заўсёды цямнейшая за рэшту цела. Вечкі над хвораю чарвою бываюць цямнейшыя, упаўшыя ў сярэдзіну і часта з прагрызянай праз пчолы дзірачкай. Гэта з вонку прыпамінае амэрыканскі гнілец. Але, калі мы гэтакую чарву распячатаем, дык пабачым зусім што іншае. У першых днях пасьля сьмерці мы пабачым характэрную для гэтае хваробы ў торбачцы чарву, а пасьля, калі чарвячок ужо высах, дык будзе ён характэрна пафалдаваны і будзе ляжаць на баку чарачкі на сваёй сьпіне з паднятымі абодвамі канцамі цела быццам чаўначок. Ніколі ня будзе сьмярдзець, як амэрыканскі гнілец. Нераспаўшая скурачка дае магчымасць пчолам выцягваць памершыя чарвячкі з чарачак і гэтым чынам змагацца з заразаю. І дзеля таго лячэньне

# „Спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду“.

*(Рэфэрат прачытаны 3/III 1935 г. на вечары прапаганды мёду).*

Кветкі розных расьлін маюць здольнасьць выдзяляць з сябе салодкі сок, які мы называем нэктарам. Нэктар гэта яшчэ ня мёд — толькі матар'ял, які пчолы перарабляюць на мёд. Другім натуральным матар'ялам, з яком пчолы могуць вытварыць таксама мёд — ёсьць спадзь. Спадзь — гэта салодкі сок, які зьяўляецца на лісьцёх дрэў у летку ў гарачыя і душныя дні. Мёд спадзёвы бывае цёмнага коляру і паводле адных вучоных уважаецца за горшы і менш вартасны, а паводле другіх — нават за шкодны для пчол і таму не радзяць пакідаць яго пчолам на зіму.

Нэктар — гэта ёсць салодкі, вадзяністы, мутны сок непадобны да мёду, ані колярам, ані смакам. Мае ён у сабе ад 60%—80% вады і звычайнага цукру каля 20%, апрача трохі дэкстрыны, (зьменянага крахмалу), эфіравых алейкаў і мінэральных соляў. Тады, калі склад хэмічны мёду паводле праф. Кэніг Бравн і Віллярэта мае:

Вады . . . . . . . . . 18%

зводзіцца да таго, каб памагчы пчолам у самавылячэньні. Спосабы дапамогі ў самавылячэньні пададзены ужо пры эўрапэйскім гнільцы.

## 2 хваробы выкліканыя праз грыбкі.

У страваграўчым праходзе чарвы спатыкаем вельмі шмат грыбкоў аднак-жа толькі некаторыя выклікаюць хваробы. Найбольш грознымі зьяўляюцца Aspergillus flavus і Pericystis apis. Хваробу, якую выклікае грыбок першы, называем скамянеўшаю чарвою—другі—звапнеўшаю чарвою.

### Скамянеўшая чарва.

Хваробу гэтую выклікае грыбок Aspergillus flavus. Размнажаецца ён пры помачы спораў. Заражэньню падлягае чарва ўва ўсіх стадыях свайго разьвіцьця. Некаторыя вучоныя падаюць, што дарослыя пчолы заражаюцца гэтаю хваробаю, што становіць вынятак ува ўсіх хваробах чарвы. Хворы чарвячок бывае спачатку белашэры потым шэра-жоўты. У канцы ўвесь чарвячок замяняецца ў жоўты парашок з зялёным налётам.

Трэба тут зацеміць, што споры Aspergillus flavus могуць выклікаць цяжкія хваробы ў чалавека, а куры і трусы гінуць праз 3—4 дні.

Гэта трэба помніць пры лячэньні гэтае хваробы. Пераважна хвароба гэтая зьяўляецца ў мейсцы, дзе яе не было і ў хуткім часе гіне. Пры вельмі сільным заражэньні трэба застасаваць лячэньне, як пры амэрыканскім гнільцы.

### Звапнеўшая чарва.

Хваробу гэтую выклікае грыбок Pericystis apis. Нападае ён на чарву трутнёвую, рэдка на пчаліную,



| | |
|---|---|
| Цукру звычайнага (бурачанага) | 2% |
| Цукру фуктовага . . . . | 37,51% |
| Цукру вінаграднага . . . | 35,7% |
| Дэкстрыны . . . . . . | 2,8% |
| Бялкоў . . . . . . . . | 1,8% |
| Фосфару, жалеза, вапны і іншых мінэральных соляў | 0,22% |
| Квасу малочнага і мураўлінага. . . . . . . . | 0,1% |

У хімічным складзе мёду могуць быць пэўныя ваганьні ў залежнасьці, з якіх кветак зьбіраны нэктар, ад яго сьпеласьці і ад шмат іншых варункаў.

Як бачым мёд розьніцца ад нэктару галоўным чынам тым, што мае значна менш вады і звычайнага цукру і значна больш цукраў простых.

Простыя цукры, гэта значыць фруктовы і вінаградны, паўстаюць з звычайнага цукру ў часе прабываньня нэктару у жываце пчалы. Зьмена гэтая паўстае ў арганізме пчалы, дзякуючы сьліне і інвэртазе. Інвэртаза гэта фэрмэнт (энзым), які знаходзіцца ў жываце пчалы.

Мёд бывае рэдкі і густы (сцукраваны). Рэдкі мёд — гэта сьвежы толькі што выбраны з вульля, бо ў вульлі тэмпэратура бывае ад 30°—35°С. Або тады, калі ён мае шмат вады, або калі ён разагрэты, ці калі ў ім шмат алейкаў, ці фрук-

ніколі на маткі. З гэтага вынікае, што спрыяючым матэр'ялам зьяўляецца кашка, якою пчолы кормяць чарву трутняў. Размнажаецца грыбок пры помачы спораў. Чарва пасьля сьмерці замяняецца на шэра-белую масу з чарнаватым налётам. Хвароба гэтая ня вельмі страшная часта зьнікае сама, незаўважаная нават праз пчаляра.

На гэтым канчаю хваробы чарвы, хаця ня ўсе апісаў хваробы, выкліканыя праз грыбкі. Апушчаю іх дзеля таго, што яны яшчэ мала апрацаваныя, а паводле цяперашніх дадзеных ня маюць большага значэньня.

*Садзі мёдадайны жываплот —*

*будзеш есьці мёд.*

МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.

## З досьледаў над змыслам зроку ў пчол.

Розныя зьявішчы ў жыцьці аваднёў, а таксама вялікая маса нэрвовай ткані ў адносінах да вялічыні цела, пацьвярджае, што зьяркі гэтыя маюць здольнасьць да прыйманьня вонкавых уражаньняў і што здаюць сабе з іх справу.

Досьледамі над змысламі аваднёў наагул займалася шмат прыроднікаў, а разьвіцьцём змыслаў спэцыяльна ў пчолаў, такія вучоныя, напр. Люббоцк, Плятэон, Форэль, Кнолль, Буттель, Рээпэн, Гээс, Фріш і інш.

На падставе досьледаў гэтых-жа прыроднікаў можна сказаць, што пчолы маюць перадусім добра разьвіты зрок і нюх.

Тутака займёмся зрокам.

У пчолаў вочы добра разьвітыя. Складаюцца яны з двох гатункаў вачэй — першыя з іх, гэта пунктавыя вочкі *(stemmata)*, ёсьць іх тры і знаходзяцца яны пасярэдзіне галавы, каля чала (глядзі рыс. 1, Б). Будова гэтых вочак паказывае, што яны каротказрочныя і мусіць пчолы карыстаюцца імі толькі пры агляданьні блізкіх прадметаў.

Другі гатунак вачэй, гэта сет-

---

товага цукру. Сцукраваны, густы мёд бывае тады, калі мае найменш вады, калі стаіць у халодным мейсцы і калі мае шмат вінаграднага цукру. Праўдзівы і натуральны мёд хутчэй сцукроўваецца ад мёду фальшаванага ці перагрэтага. Таксама хуткасьць сцукроўваньня мёду шмат залежыць ад таго, з якіх кветак ён зьбіраны. Кожны мёд ёсьць пажыўны і легкатраўны.

Аднак прынята дзяліць мёд, у залежнасьці ад коляру, на сьветлы і цёмны, а ў залежнасьці ад кветак на ліпавы, малінавы, грачаны, вераскавы і г. д.

Мёд зьяўляецца для нас і ежаю і лякарствам і таму мы павінны яго ўжываць як у хваробе, так і будучы здаровымі. Ежа наша складаецца пераважна з расьлін і іх вытвараў, не гаворачы аб лякарствах, якія у аграмаднай сваёй большасьці вырабляюцца з расьлін. Мёд зьяўляецца больш вартасьнаю і больш карыснаю ежаю і лякарствам ад усіх іншых дзякуючы таму, што мёд гэта незвычайная частка расьліны, а сок кветкі, яе найдасканальшай і найбольш вартаснай часткі. Мёд ёсьць ежаю: камплетнаю, пажыўнаю, задроваю, чыстаю і добраю да перахоўваньня.

I. Што мёд есьць ежаю камплетнаю сьведчыць тое, што пчолы, якія жывяцца праз усю зіму вы-

кавыя вочы *(oculi)*, даволі вялікія і крыху выгнутыя, разьмешчаныя па двох баках галавы (глядзі рыс. 1, A). Складаюцца яны з большай колькасьці (тысячы!) аднолькавых, маленькіх, паасобных вочак *(ommatidium)*. Кожнае такое вочка складаецца з рагоўкі шасьцікутнай паверхні, сачэўкі і даўгой вузкой трубачкі, каторая канчаецца зрокавым нэрвам.



Рыс. 1. **Галава пчолы.** A — сеткавыя вочы *(oculi)*, B — пунктавыя вочкі *(stemmata)*.

Усе гэтыя вочкі, творачыя супольна сеткавыя вочы, шчыльна састаўленыя побач сябе, прамяніста да нутра — вонкава выглядаюць разам як невялічкая сетачка з шасьцікутнымі „вочкамі“ (гл. рыс. 2).

Сеткавымі вачмі можна глядзець ужо шырэй і яны служаць пчолам


Рыс. 2. Сеткавыя вочы воукава выглядаюць як нявялічкая сетачка.

да гледжаньня на большую адлегласьць.

Ці пчолы разрожніваюць коляры?

Пытаньне гэтае ўжо даўна цікавіла прыроднікаў, але адказы на яго былі розныя.

Некаторыя з прыроднікаў (напр.

---

ключна мёдам, захоўваюць сваё жыцьцё, а гэта гаворыць аб тым, што мёд можа даць столькі энэргіі, колькі патрэбна на падтрыманьне нармальнага жыцьця.

II. Мёд зьяўляецца ежаю пажыўнаю таму, што мае ўсе складовыя часткі, патрэбныя для нашага арганізму. Мае ён: 1. ваду, 2. цукар, 3. мінэральныя солі, 4. бялкі і 5. вітаміны.

1. Вады мае мёд 18%. Калі-б ён ня меў вады, ён быў-бы ежаю цьвярдою, сухою і таму не маглі-б спажываць яго пчолы, а для нас быў- ы нездаровым і цяжкастраўным.

2. Цукар (75,21%) — для нашага арганізму ёсьць абавязкава патрэбны, бо ён агравае і аджыўляе яго, даючы нашаму целу энэргію і сілу. Дзякуючы таму, што цукар можа хутка разыходзіцца па арганізме, ён у кожную хвілінку можа аджыўляць найменшую частку нашага цела. Калі мы ня будзем даваць нашаму арганізму цукру, ён сам вытварыць яго з бялкоў, але на гэтую замену арганізм павінен зужыць шмат энэргіі і працы. І таму гэтакі чалавек павінен спажываць вельмі шмат ежы. Тады, калі даказана, што людзі ўжываючыя мёд на падтрыманьне сіл свайго цела, зужываюць вельмі, мала ежы, а бываюць сільнымі і энэргічнымі і на-

Люббоцк) цьвярдзілі, што пчолы маючы добра разьвіты зрок могуць разрожніваць коляры.

Іншыя (як Гээс) пераконывалі, што пчолы ня разрожніваюць коляраў, але толькі відзяць розныя адцені шэрага коляру, штось падобнага, як людзі адрожніваюць гэта на фатаграфіях.

У апошніх часох гэтай справай заняўся Др. Фріш, прафэсар унівэрсытэту ў Манахіюм (Немеччына)

Ягоныя досьледы і іх вынікі вельмі цікавыя.

Вось напр. досьлед, каторы мае выясьніць ці пчолы адрожніваюць сіні коляр *)

Бярэ ён 15 квадратаў сьветла і цёмна-шэрых (ад белага аж да чорнага коляру), разьмеру 15 cm. × 15 cm., і кладзе іх на століку ў розным парадку, памяшчаючы сярод іх адзін квадрат сіняга коляру.

Гэта ўсё закрывае шклом, каб напр. пах ці характар паверхні неадыгрываўбы тутака ніякай ролі.

Цяперака на кожным квадраце памешчае парожную шкляннную місачку, кладучы крыху сыропу **) толькі ў місачку, каторая знаходзіцца на сінім квадраце.

Памясьціўшы гэта ўсё ў цяні, недалёка вульля, кладзе побач кусок паперы намазанай мёдам, каб лягчэй ягоным пахам звабіць пчолы, хаваючы яго ў мамэнт, калі яны пачынаюць зьлятацца.

Пчолы, шукаючы мёду, знаходзяць місачку з сыропам, пастаўленую на сінім квадраце; набіраюць сыропу і адлятаюць да свайго вулья, адкуль панекалькі мінутах варочаюцца ізноў.

І так праз 2—3 дні, Фріш прывучае (трэсуе) пчолы да сіняга коляру, пераносячы аднак-жа ад часу да часу сіні квадрат з месца на месца, каб памяць неадыгрывала тут ролі.

Пасьля хавае гэты столік з квадрацікамі, а на яго месца ставіць такі самы ***) толькі ўжо бяз сыропу ў місачцы на сінім квадраце, а месца самага сіняга квадрату

*) З яго кніжкі п. н. „Farbensiun und Formensiun der Biene".

**) Ужываў ён сыроп з цукру, які ня мае паху.

***) Гэтую зьмену столікаў робіцца на тое, каб ня было ніякага паху, каторы застаўляюць па сабе пчолы зьбіраючыя сыроп.

---

ват у пажылым ужо веку, бываюць яшчэ бадзёрымі і поўнымі здароў'я, бо іх арганізм не зруйнаваўся, травячы малую колькасьць ежы і захаваў здольнасьць змагацца з рознымі хваробамі.

3. Мінэральныя солі — больш патрэбныя для нашага арганізму, чым тукі і цукар, таму што арганізм ня мае здольнасьці вытварыць солі, якія яму патрэбныя з іншых частак нашай ежы тады, калі тук і цукар могуць быць вытвараны з бялкоў. Хімічны аналіз паказаў, што мёд мае ў сабе ўсе мінэральныя солі, патрэбныя для жывога арганізму і то ў форме распушчанай, гэтым самым лёгкай для прысваеньня. Мёд мае солі фосфару вапны і жалеза.

**а)** Фосфар ня толькі карысны для арганізму, але абавязкава патрэбны, бо бяз фосфару ня могуць вытварыцца косьці і нармальна аджыўляцца нашая нэрвовая сыстэма.

Арганізм наш адчувае недахоп фосфару ня толькі ў часе росту, але таксама, калі вырас, таму што часткі фосфару ўвесь час убываюць з мазгоў і касьцей так, што калі-б мы яго не дастаўлялі, то ў хуткім часе наш арганізм змарнеў-бы састарэўся і памёр-бы. Каб не дапусьціць да гэтага, трэба спажываць мёд, які мае у сабе (0,125%) фосфару так

зьменшае ў адносінах да палажэньня, якое ён займаў у часе апошняга кармленьня.

Цяперака пчолы здаюць экзамен.

Калі яны ўмеюць адрожніваць сіні коляр, дык тады ясна — будуць зьбірацца на квадраце такога-ж коляру.

І сапраўды, пчолы грамадна зьбіраюцца на сінім квадраце, а на шэрыя сядаюць толькі некаторыя.

Раз, напр., сабралася праз 4 мінуты на сінім квадраце 282 пчалы, калі ў гэтым-жа самым часе на шэрых было толькі 3 пчалы.

Іншым разам Фріш напоўніў сыропам усе місачкі, стоячыя на шэрых квадратах, толькі місачку на квадраце сіняга коляру аставіў парожняй. Пчолы і тады зьляталіся на сіні квадрат, і толькі па некаторым часе зьвярнуліся да поўных місачак стаячых на шэрых квадратах.

З гэтага відаць ясна, што яны патрапяць адрожніваць сіні коляр.

Далейшыя ягоныя досьледы паказалі, што пчолы аднак-жа не аднолькава адносяцца да ўсіх коляраў.

Калі Фріш зрабіў напр. тую самую пробу з чырвоным колярам, аказалася, што пчолы прыляталі ня толькі да чырвоных квадратаў, але і да чорных, і цёмна-шэрых. Гэта паказывае, што яны чырвонага коляру ня відзяць як коляру, але як адцень цёмна-шэрага *).

Справа яшчэ ляпей выясьнілася тады, калі ён клаў ужо ведамы пчочам коляр ня толькі сярод шэрых, але наагул паміж усімі, магчымымі колярамі. Пчолы тады рабілі вялікія памылкі, коляр жоўты мяшалі з рабінава-чырвоным і сінязялёным, сінія коляры путалі з фіялетавымі і цёмна-чырвонымі. Пчолы, трасаваныя на сінім коляры, аднак-жа ніколі не садзіліся на рабінава-чырвоных, жоўтых ці зялёных квадратах, таксама трэсаваныя на жоў-

*) Есьць і людзі, каторыя ня відзяць коляраў, як людзі нармальныя. Для іх усе коляры зьяўляюцца шэрымі колярамі розных ступеняў яснасьці. Яны разрожніваюць коляры толькі па гэтых ступенях яснасьці і, напр., для іх чырвоная папера гэта цёмна шэрая, амаль што чорная, а сіняя папера гэта ясна-шэрая. Адным словам — коляр тут мае для іх толькі азначаны ступень яснасьці. Таксама чырвоны і некаторыя іншыя коляры, бачаць і пчолы

---

прыгатаванага праз пчолы, што наш арганізм вельмі лёгка яго прыймае і пакрывае усе свае патрэбы. Патрэбу фосфару найбольш адчуваюць людзі перапрацаваныя ўмысловаю працай. І ня дзіва, што вучоныя і дахтары, знаючы гэтыя ўласьцівасьці мёду, радзяць яго ўжываць у выпадках вышэй успомненых.

Праф дохт. Т. Цесельскі кажа: Дзякуючы спажываньню мёду захаваем яснасць думак, поўнае здароў'е і адсунем прыкрую старасьць і прадоўжым сабе жыцьцё на шмат гадоў".

**b)** Вапна — гэта галоўны матар'ял, з якога наш арганізм будуе косьці. Пры недахопе вапны трухлеюць зубы, а іншыя косьці робяцца мяккія і вельмі лёгка крывяцца. Спажываючы мёд, які мае 0,224% вапны, мы абаронім наш арганізм ад гэтых недамогаў.

**c)** Жалеза — патрэбнае, арганізму на вытварэньне чырвоных клубікаў крыві. Пры недахопе жалеза людзі робяцца белымі, малакроўнымі і здольнымі да розных хваробаў.

Усяму гэтаму можна зарадзіць ужываючы мёд, які мае ў сабе 0,1—0,8% жалеза.

Аб гэтым павінны помніць усе хворыя на малакроўе і ўжываць мёд замест дарагіх і несмачных ля-

тых ня прылятали на сінія, фіялетавыя ці цёмна-чырвоныя.

З гэтага відаць, што пчолы бачаць коляры накш чым людзі і не разрожніваюць толькі розных і прыгожых адценьняў. І зноў-жа відзяць яны ультрафіялетавыя праменьні, каторыя ня дзеяць на вочы чалавека і гэтым вочы пчолаў перавышаюць нашыя. Тымчасам падабенства, якое ёсьць паміж вокам пчалы і чалавека такое, што пчала сваім вокам бачыць ня толькі прадметы белыя, чорныя і шэрыя, але таксама і каляровыя.

Падобныя досьледы як і з колярамі рабіў Фріш і з геомэтрычнымі фігурамі, хочачы даведацца ці пчолы адрожніваюць форму прадметаў. Але тады аказалася, што пчолы, трэсаваныя на трыкутніку, не адрожнівалі яго ад квадратаў і іншых фігур, што паказывала-б на тое, што пчолы ў геомэтрычных фігурах не разьбіраюцца.

Хаця досьледы Фріша кінулі шмат сьветла на змысл зроку ў пчолаў, аднак-жа яшчэ вельмі многа асталося ня выясьненага і неяснага.

*Вільня, 8 сьнежня 1935 г.*



# Калі і як зрэзываць прышчэпы.

Маючы дзічкі, выгадаваныя з зярнят, або купленыя, трэба загадзя падумаць аб тым, што яны ў гэтакім „дзікім" стане карысьці нам не прынясуць, а мусім на іх зашчапіць шляхотныя адмены, якія будуць радзіць вялікія і смачныя плады.

Шчапіць трэба вясной у пряцягу красавіка, бо тады сокі ў дрэвах пачынаюць рухацца і зробленыя пры шчапленьні раны хутка зажываюць.

Але прышчэпы для шчапленьня можна прыгатаваць ужо цяпер.

карстваў. Доктар праф. Bung гаворыць:

„Мёд мае гэтую перавагу над усімі препаратамі жалеза, якія спажываюць хворыя на малокроўе таму, што мае жалеза ў форме, у якой вельмі лёгка наш жывот яго прымае і аддае крыві.

Мёд павялічвае колькасьць чырвоных клубікаў на 25—30%". Доктар Паўліна Einich дырэктар санаторыі ў Швайцарыі лечыць дзяцей мёдам і малаком.

Пасьля вельмі дакладных досьледаў выявілася, што у дзяцей, якія карміліся мёдам з малаком колькасьць чырвоных клубікаў узрасла з 53% на 82%, а у іншых якія аджыўляліся толькі малаком з 70%—78%.

Першыя дзеці прыбылі на вазе 4 кілё, а другія за той самы час толькі 1 кілё.

4. Бялкоў у мёдзе толькі 2%. Сучасная мэдыцына даходзіць да перакананьня, што дзеля падтрыманьня нашага жыцьця патрэбна вельмі мала бялкоў, якія знаходзяцца у мясе, а патрэбу бялкоў належыць пакрываць бялкамі, якія знаходзяцца ў мёдзе і іншых расьлінных прадуктах.

(Далей будзе).

Можна іх зрэзываць у восені, як лісьцё спадае, зімой, а нават вясной пакуль пупышкі не пачнуць лопацца.

Прышчэпы грушаў і чарэшняў лепш зрэзываць у пачатку зімы, пакуль няма вялікіх маразоў, бо яны вельмі далікатныя, лёгка прымярзаюць, а прымерзшыя трудна прыжываюць пры шчапленьні.

Прышчэпы гэта сёлетні прырост на канцах галінак, просты, роўны бяз ніякіх сучкоў і бакавых галінак. Зрэзываць іх трэба вострым нажом, роўна і гладка, каб ня зрываць кары і не калечыць дрэва.

Зрэзаныя прышчэпы лёгка могуць высахнуць, дзеля гэтага трэба іх адпаведна забясьпечыць.

Садоўнікі — практыкі радзяць такі спосаб: замясіць гліны на густа і зьляпіць з яе большую ці меньшую, паводле патрэбы, кулю, ды паўтыкаць у яе прышчэпы зрэзанымі канцамі. Трымаць прышчэпы да вясны трэба ў склепе; там гліна ня высахне і прышчэпы захаваюцца сьвежымі. Трэба толькі сьцерагчы, каб іх мышы не паелі, а дзеля гэтага найлепш аблажыць іх шчыльна галінкамі ялаўцу. Бывае, што трэба пераслаць прышчэпы на вялікую адлегласьць, тады, каб забяспечыць іх ад высыханьня радзяць уваткнуць іх у бульбіну або ў бурак.

Прышчэпы трэба браць з адменаў добрай якасьці і з дрэваў здаровых. Калі ў сваей ваколіцы дастаць немагчыма, то выпісываць іх треба толькі з добрых і пэўных фірмаў, якія сумленна дадуць нам тыя адмены, якіх нам патрэба.

З В

---

## Як залажыць кампосную кучу.

Найлепш закладаць кампосную кучу недалёка хаты за хлявамі. За блізка хаты ня добра, бо ад кучы будзе разыходзіцца благое паветра; далёка ізноў блага, таму, што трудна будзе дастаўляць кампостны матэрыял. Мейсца павінна быць роўнае: ня лішне нізкое бо тут можа застоівацца вясной вада, якая будзе вымываць кучу, і ня лішне высокае і адкрытае, бо куча будзе выветрывацца і высыхаць, а значыцца і трудна перагніваць.

Вельмі добра, каб куча была закрытая прынамся ад поўдня (дрэвамі ці будынкамі, каб кампост лішне ня высыхаў ад сонца. Разьмер і форма компоснай кучы будзе найлепшай, калі зробім яе падобнай да капца бульбы ў 1½ або 2 мэтры шырыні ў падставе. Бераг і кучы мусяць ад самага пачатку быць крыху вышэйшымі за сярэдзіну, каб жыжка ня сьцякала на бакох. На самае дно кучы мусім даць пласт (10—15 цм.) такога матэрыялу, які найлепш затрымлівае распушчаныя ў ваздзе спажыўныя складнікі, сьцякаючыя з верхніх пластаў кампосту.

Найлепшым матэрыялям дзеля гэтай мэты ёсьць сухі торф. Торф і сам па сабе зьяўляецца добрым угнаеньнем і паляпшае глебу; толькі сьвежы ён не гадзіцца, бо з яго яшчэ ня вышла балотная кісьля, а мусіць раней вымерзнуць і выветрыцца на паверхні зямлі. Праляжаўшы больш году ў кампоснай кучы, ён ня толькі вымерзьне і выветрыцца, а яшче набярэцца гнаёвай жыжкай ды рознымі памыямі, ад чаго яго вартасьць палепшыцца у некалькі разоў. Калі няма торфу, то яго можна замяніць балотнай зямлёй, мохам, лісьцём або ў канцы нягоднай саломай.

Гэтыя прыгатаўленьні найлепш

рабіць ў восені перад маразамі, бо тады і торф здабыць лягчэй, (дзе ён ёсьць) і часу кожны больш мае. Зімой горш, бо сьнег перашкаджае ў працы і зямля замерзшая не даецца зраўняць. Але адкладаць работы ня варта. Калі толькі задумана закладаць кучў, то і трэба прыступіць да работы адразу, хацяб і зімой, бо адкладаючы страціцца шмат дарагога матэрыялу, якога, праз даўгую зіму можна назьбіраць ў кучу.

Калі дно кучы маем ужо гатовае, пачынаем зваліваць туды ўсё, што толькі можа згніць. Перадусім вымятаем з ўсіх гаспадарскіх будынкаў усё сьмяццё", вымятаем таксама ўсе куткі панадворка і вуліцу; вычышчаем з коміна сажу, выбіраем увесь попел; і ўвесь гэты здабыты матэрыял пасыпаем роўным пластом па кучы. Туды-ж нясем уселякія кухонныя адкіды, нездатныя для жывёлы: птушыны гной, асабліва гусіны, які бязпасярэдня пад расьліны ўжыты быць ня можа, як вельмі палючы; старую тынкоўку, апілавіньне, кастрыцу, косьці: (пабітыя на дробныя кускі), унутрэнасьці (бэбэхі) забітай хатняй жывёлы, розныя памыі з хаты, ваду ад мыцьця бялізны і г. д. і г. д.

Зімой, вясной і ў летку на гэтую-ж кучу, павінна старанна складацца ўсякае пустазельле выпалатае ў агародах, а таксама вырванае пад платамі і будынкамі. Трудна пералічыць нават, чым можна павялічыць кучу. Усё, што можа толькі згніць у кучы, згніе і прынясе карысьць.

Вясною, як толькі стане цёпла, дык куча, як-бы загарыць, з яе ідзе пара.

Гэта ад таго, што ўсё зложанае ў кучу пачало гніць.

Трэба яшчэ заўважыць, што ня ўсе матэрыялы аднолькава хутка перагніваюць.

У той час як адны: пустазельле, адкіды кухонныя, націньне і г. п. гніюць хутка, іншыя як: косьці, пер'е, капыты, габлюшкі, дробныя галінкі і трэскі, гніюць трудней. Дзеля гэтага добра мець адразу 2 кучы, адну з першых, другую з другіх матэрыялаў. Тады 1-я куча будзе раней гатовая да ўжытку, другая пазьней.

Цяжка перагніваючыя матэрыялы вельмі карысна перасыпаць нягашанай вапнай. *З. С-я.*

---

## Зёлкі, на якія ёсьць запатрэбаваньне.

Побач падаемо (паводле „Wiadomości Zielarskich") для арыента цыі гуртовыя цэны, якія трэба разумець loco станцыя нагрузкі за 1 кгр. тавару добрага гатунку.

**Кветкі—Flores.**

| | |
|---|---|
| Арніка—Arnica Montana | 1.80—2.40 |
| Румянак—Matricaria Chamomilla | 2.50—3.50 |
| Васілёк—Centaurea Cyanus | 4 50—5.— |
| Бузіна—Sambucus Nigra | 2.—2.25 |
| Ліпа—Tilia | 0.90—1.10 |

**Ягады—Fructus.**

| | |
|---|---|
| Чарніцы—Vaccinum myrtyllus | 0.70—0.80 |
| Маліны—Rubus Idaeus | 3.00—3.50 |
| Рабіны—Sorbus aucuparia | 0.40—0.50 |

**Зельле—Herba.**

| | |
|---|---|
| Палын—Artemisia Absinthium | 0.30—0.40 |
| Хвошч палявы—Equisetum arvense | 0.20—0.25 |
| Сьвятаянскае зельле — | |

| | |
|---|---|
| Hypericum perforatum | 0.30—0.35 |
| Палявыя братачкі—Viola tricolor | 0,50—0.60 |

**Лісьцё—Folia.**

| | |
|---|---|
| Воўчая ягада — Altropa Belladona | 1 50—2.20 |
| Блёкат—Hyoscyamus niger | 1 00—1.50 |
| Дурнальян—Datura Stramonium | 0.70—0.90 |
| Пятровая мята—Mentha piperita | 2—3.— |
| Мачанічнік — Arctostaphylos Uva ursi | 0.25—0.35 |

**Карэньня—Radix.**

| | |
|---|---|
| Мыдлік ці Панчошнік—Saponaria officinalis | 1.00—1.10 |
| Валерыян—Valeriana officin. | 2.50—3.— |

**Кара - Cortex.**

| | |
|---|---|
| Крушына — Rhamnus Frangula | 0.20—0 25 |
| Дуб—Quercus | 0.20—0.30 |

---

| | |
|---|---|
| Пылок дзеразы — Spore Lycopodium clavatum | 3—4.— |
| Спарыньня—Secole carnutum | 2 50—3 — |
| Пупышкі бярозы - Gemonae Betulae | 1.40—1.70 |

---

МІКАЛАЙ КАРАЛЕНКА.

# Зайцы ў садзе.

Для людзей, якія ня маюць садоў або ня дбаюць аб іх, заяц гэта мілы зьвярок, каторы дае мяса і скурку. Але для нас, як садаводаў і земляробаў, гэта ёсьць бязумоўны шкоднік.

Шкоды яго зімою ў садзе гэта агрызаньне дрэў, што змушаны ён рабіць толькі голадам, бо напр. летам, калі ёсьць даволі корму — іншых шкод у садзе ня робіць, апрача зьяданьня пладоў яблынь і ігруш.

Зімою агрызае гладкую кару (старой, цьвярдой ня чапае) перадусім яблынь, вішань і чарэсьні, радзей ігруш, а толькі рэдка сьліў. З дзікіх — шкодзіць акацыям, топалям, клёнам і інш.

Для аховы дрэвак перад агрызаньнем зайцамі, можна ўжываць такія спосабы:

1) Акручываньне пнёў пляцёнкай з саломы (абвязываньня простай саломай не хапае).

2) Карыстаючы, што заяц ня зносіць паху чароту (трысьнік-*Phragmites)* абкладаць і абвязываць дрэўкі чаротнікам.

3) Добрым сьродкам ёсьць сапсутая быдлячая кроў, — мажацца ёю пні дрэваў.

Калі толькі заўважым параненыя зайцамі дрэвы, трэба якнайскарэй раны замазаць агародніцкай масьцю і паабвязываць анучамі, што дазволіць ім скора загаіцца.



# З чужога жыцьця і прэсы.

## Працаздольнасьць пчолаў.

Часапісь „Весь Мір“ падае такія весткі пра вялікую сілу пчалы. Звычайная пчала важыць 0,1 грм. а можа нясьці на сабе тры чэцьвярці гэтага цяжару. Каліб параўнаць пчалу з чалавекам, то вышла-бы, што калі чалавек важыць, дапусьцім, 70 клг. то павінен свабодна нясьці 52½ кл.

Падчас медазбору пчала вылятае ўдзень 20 і больш разоў, а нярэдка залятае вельмі далёка. Хуткасьць пчалы такая: бяз мёду ці пылку 65 кіляметраў на гадзіну, з мёдам 20—30 клм.

Калі чалавек можа падняць найбольш падвойную вагу, свайго цела, чмель можа падняць 16—то пчала аж 20 разоў больш чым важыць сама.

## Кухонная соль проціў укусаў восваў і пчолаў.

У выпадку, калі каго небудзь укусіць пчала ці асва, а няма пад рукой якога небудзь памоцнага сьродка, карыстаюцца кухоннай соляй.

Бяруць паў-гарбатняй лыжкі — белай дробнай солі, спрысківаюць крыху вадой і прыкладываюць тую мокрую соль на балючае мейсца.

Ад гэтага боль і пухліна хутка праходзяць.

# З НАШАГА ЖЫЦЬЦЯ.

ГМІНА ГАРАДЭЧНА, пав. Наваградзкі. Сёлета ў нашых ваколіцах перазімавалі пчолы зусім добра. Прыпісаць гэта можна кароткай і доволі цёплай зіме і добрым запасам мёду з папярэдняга году. Спачатку вясны пчолы трохі скарысталі з лазы і з раней цьвіцеўшай садовіны. Пасьля пачаліся халады і дажджы, якія ў многіх пчаляроў прычыніліся да галоднай сьмерці, непадкормленых, або мала маючых запасаў, раёў. Халады яшчэ зрабілі тое, што ня ўсе сем'і на час галоўнага пажытку прыйшлі да жалезнае сілы. І толькі вельмі добры дагляд і рацыянальная, спэкулятыўная падкормка далі сілу раёў, якую пчаляр хацеў.

Галоўны пажытак пачаўся ў нас у канцы чэрвеня і трываў каля двух тыдняў. У пчаляроў, каторыя мелі свае пчолы ў сіле, мёдазбор выпаў нязгорш, бо вялікая колькасьць лётных пчол патрапіла выкарыстаць так кароткі пажытак. У пчаляроў, якія не падкармілі, або не дагледзілі сваіх пчолак вясною, мёдазбор кончыўся вельмі сумна: прышлося ратаваць свае пчолкі цукрам.

Пасьля гэтага пачаліся дажджы, ветраная, халодная пагода, і пчол, кам прышлося сядзець у вульлі і спажываць сабраныя раней запасы мёду. У часе галоўнага пажытку пчолы скарысталі з дзяцяліны, з рапа пасеянай грэчкі і з ліпы, якая у гэтым годзе цьвіцела ў нашых ваколіцах добра, але мёдавала ня вельмі, дзякуючы вельмі вялікай гарачыні. Так, што агульна у пчаляроў, каторыя добра даглядзелі свае пчолкі з вясны, мёдазбор выносіў сярэдня 16—20 кіляграмаў з вульля.

*М.*

---

# З выдавецкае нівы.

„Саюз Малапольскіх Пчаляроў“ у Львове ў лістападзе 1935 году выдаў кніжку Леанарда Казікоўскага пад назовам: „Choroby, pasorzyty i szkodniki pszczoły miodnej“ („Хваробы, паразіты і шкоднікі медадайныя пчалы“). Есьць гэта найвялікшая (180 старонах) і найпаважнейшая з дасюль выданых у польскай мове кніжак, апісваючых хваробы пчолаў.

Першыя старонкі свае працы аўтар пасьвячае бактэрыалёгіі і мэтадам бактэрыолёгічных дасьледаў хваробаў пчолаў, дзякуючы чаму кніжка набірае вельмі шмат навуковага характару і таму можна яе залічыць да навуковых твораў, або падручнікаў. Далей аўтар вельмі падрабязна і шырака апісвае ўсе знаныя хваробы, паразітаў і шкоднікаў пчолаў і падае спосабы распазнаваньня і змаганьня з імі, дзякуючы чаму, кніжка гэтая зьяўляецца карыснаю так для пчаляра практыка, як і пчаляра навукоўца. Бяручы пад увагу вышэйпададзеныя цэнныя бакі гэтае працы, а ня маючы ў сваёй роднай мове адпаведнае кніжкі, „Беларуская Борц“ павінна старацца, каб гэтая кніжка пашыралася сярод пчаляроў. *Як. М.*

*Ад рэдакцыі:* Кніжку гэтую можна купіць па наступчаму адрасу: Lwów, ul. Kopernika 20 „Małopolski Związek Pszczelarski“.

Цана 5 зл. 50 гр

**Беларускі Народн. - Гаспадарскі Календар на 1936 г.** (меньшы), 48 бачынаў вялічыні звычайнай кніжкі, цана 45 гр.

Гэты самы календар выйшаў другім выданьнем (большы) і мае 96 бачынаў, цана 70 гр.

Апрача календарнай часткі, каляндар мае досыць багаты аддзел лекарскіх і гаспадарчых парадаў.

У другім выданьні апрач гэтага, надрукаваны (ў прыгожым выданьні) „Беларускія (крывіцкія) казкі“.

Календары надрукаваны граждацкай.

**Biełaruski Narodny Kalendar na 1936 hod,** (выдана лацінкай) 48 бачынаў вялічыні звычайнай кніжкі, цана 40 гр.

Апрача календарнай часткі, мае багаты аддзел гаспадарчых і іншых практычных парадаў.

Гэты календар таксама выйшаў другім выданьнем (большы і мае 96 бачынаў), цана 50 гр.

Розьніца гэтага выданьня ад першага у тым, што ўжыта ў ім кніжка „Biełaruskaja Dudka“ M. Buračka.

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

## Паважаная Рэдакцыя

Гэтым ветліва прашу Вас памясьціць у найбліжэйшым нумары „Бел. Борці“ спраставаньне паводле апошніх дадзеных да майго артыкулу „Аб шоўкаўніцтве“, надрукаваным у 6 (11) № з пр. г.

Расход і даход з гадоўлі шоўкапрада прадстаўляецца ў такі спосаб:

**РАСХОД:**

1) Вартасьць яечак шоўкапрада, 25 грамаў па 90 грошы. . . . . . 22,50 зл.
2) Вартасьць паперы. . . 10,00 „
3) Апал, кошты дезынфэкцыі . . . . . . . . . 15,00 „
4) Амортызацыя прыладаў да гадоўлі і дробныя расходы . . . . . . 5,00 „

**Разам 52 50 зл.**

**ДАХОД**

1) Вартасьць атрыманай з гэтай гадоўлі 60 клг. сьвежай вопрадні, лічачы па зл. 9 за 1 клг. . . . . 540,00 зл.

**Чысты даход 487,50 зл.**

Пры сушэньні вопрадняў трацяць яны каля 65% сваей вагі, але затое цана іх у тры разы большая, так што калькуляцыя прадстаўляецца мень-шбольш таксама, як і пры прадаваньні сьвежых вопрадняў.

Пры гэтых абліченьнях прыймаем, што з 1 грама яечак будзем мець добрую зборку вопрадні — каля 2½ клг.“...

... „Аднак-жа трапляюцца і такія вынікі, што з 1 грама яечак атрымліваюць да 3 клг. вопрадні, а нават больш“...

... „А каля 500 зл. чыстага даходу за 4 — 6 тыдняў пацьвярджае, што гэтай галіны вытворчасьці ня можна абмінаць“.

Прымеце словы глыбокай пашаны.

*Мікалай Караленка.*

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

**Грамадзяніну М. Рагалю** Адрас Ваш перамянілі і „Б. Ворць“ далей высылаем. Чакаем падпіскі.

**Г-ну М. Кудліку:** Высылаем Вам лробны нумар. У сэзоне зелярскі аддзел пастараемся пашырыць.

**Гр-нам Я. Падробе, А. Гоману Я. Кунзыду.** Пробныя №№ высылаем.

**Г-ну Петру Зяйка:** Найбольш адпавядае на нашыя землі гандлевая адмена „Пракапянка“.

Выгадавала яе Дзяржаўная Гаспадарская школа ў М. Лучай Пастаўскага павету (пошта Варапаева), якая паставіла сабе за мэту выгадаваньне адмен грушаў, адпаведных да нашага клімату. 3—4 гадовыя дрэўцы „Пракапянкі“ можна там купіць па 2 зл. 50 гр. за штуку.

**Г-ну Я. Пышцы:** Зьмяшчаючы абвестку аа запатрэбаваньні на „большую“ колькасьць грыбоў, мы апіраліся на запатрэбаваньві аднае вялікай гутроўні, якая прыймае партыі ня меньшка чым 50—100 кілягр. Пробкі абавязкавыя, а цану мусяць падаць самыя дастаўшчыкі. На гатункі дзеліцца крыху інакш, чым Вы гэта прапануеце. Дзеліцца на 4 гатункі: І-шы самыя галоўкі (бяз наймэньшых карэньчыкаў) даволі вялікія.

ІІ-гі самыя галоўкі—меньшыя.

ІІІ-ці з маленькімі карэньчыкамі.

IV ы з большым карэньнем.

— Мож-б ў Вашай ваколіцы сабралася большая партыя грыбоў, тады прысылайце пробкі і цану, якую ў Вас плоцяць, а мы паразумеемся з гуртоўняй.

**Гр. У. Казаку.** Зьвярніце ўвагу на папярэдні адказ.

**Гр І Балашку Бігуну.** Вам падрабязны адказ высланы лістоўна. Просім прысылаць нам падрабязную справаздачу са сваей гадоўлі шоўкапрадаў за апошні год а таксама з гадоўлі дзеванны (Verbascum). Вашы справаздачы зьмесьцім у „Бел. Борці".

**Г-ну П. Дзяшковічу.** Прэбны № вышлаем. Аб падпісцы на 1936 г. знойдзеце у гэтым №. Адрас Ваш у кнігарню перадалі.

**Гр-ну Д Камарчуку.** Пробныя №№ высылаем. Аб льготнай падпісцы на 1936 г. даведаецеся з этага №. Кніг, якія Вы просіце на жаль ня маем і выслаць Вам ня можам.

# АБВЕСТКІ

## ЗАПІСВАЙЦЕСЯ

**на Беларускія Агульнаадукацыйныя Курсы, якія вядзе ад 1-га лютага 1936 году Віленскі Цэнтральны Гурток Т-ва Беларускае Школы.**

Курсы будуць абымаць наступныя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі—10 лекцыяў.

2) Агульную географію Эўропы і пазаэўрапэйскіх краін — 10 лекцыяў.

3) Гэографію Беларусі — 5 лекцыяў.

4) Палітычную эканомію (асновы грамадзкай гаспадаркі) — 5 лекцыяў.

5) Гісторыю Беларускай літэратуры — 10 лекцыяў.

6) Космографію (навука аб зорах і плянэтах,—5 лекцыяў.

7) Натуральную гісторыю зямлі (паверхня, слаі зямлі і іх паўстаньне, расьлінны і зьвярыны сьвет і іхняе разьвіцьцё).

8) Гісторыя культуры і цывілізацыі.

Курсы пачынаючы ад 1936 году будуць вясьціся стала кожную зіму ад 1 лістапада да 31 красавіка. У сёлетнюю зіму курсы пачнуцца 1-га лютага, будуць трываць тры месяцы (да 31 красавіка) і абымуць толькі чатыры першыя прадметы:

1) Гісторыю Беларусі, 2) Агульную Гэографію, 3) Гэографію Беларусі і 3) Палітычную эканомію.

МЭТА КУРСАЎ: даць і паглыбіць агульную веду аб бацькаўшчыне і сьвеце, павялічыць гэтым самым грамадзкую вартасьць адзінак, карыстаючых з курсаў.

Лекцыі будуць уложаны папулярна, даступна, каб з курсаў мог карыстаць кожны, хто ўмее чытаць па беларуску.

Лекцыі будуць друкавацца на павелячы. Курсы будуць вясьціся бясплатна. Толькі на пакрыцьцё коштаў (папера, пошта, кошты друку і інш.) трэба прысылаць 2 зл. месячна, значыць 6 зл. у тры месячныя раты за цэлы сёлетні курс (30 лекцыяў).

Мы ведаем, што нават гэтая невялікая плата на пакрыцьцё коштаў, будзе ў цяперашнія цяжкія часы многім не пад сілу. Каб гэ-

таму зарадзіць і зрабіць Курсы даступнымі для ўсіх, заклікаем да выпісваньня лекцыяў у складчыну. Асабліва карыснымі будуць курсы для існуючых гуртkoў ТБШ і іншых культ.-асьветных аргавізацыяў у працы пашырэньня веды сваіх сяброў.

Лекцыі будуць рассылацца поштай больш меньш ra дзьве на тыдзень. Запісываючыся на курсы трэба прыслаць плату за першы месяц і наступныя інфармацыі аб сваёй асобе: 1) Імя і прозьвішча, 2) Мейсца і год нараджэньня, 3) Прафэсія (чым займаецца), 4) Дакладны адрас. Калі лекцыі выпісваюцца цэлай групай, дык трэба падаць дакладныя дадзэныя аб усіх асобах з групы і накаго слаць лекцыі.

ГРАМАДЗЯНЕ! Помніце, што веда, гэта магутнае аружжа ў змаганьні за лепшую будучыню, і таму выкарыстайце вольны час, які ёсьць зімой у вёсцы, каб праз Курсы здабыць і пашырыць сваю веду.

Нам, беларусам, тым больш трэба здабываць веду саматугам, бо родная школа, у якой кожны сын культурнага народу дастае гэтую веду,—для нас тымчасам недаступная роскаш. Помніце, што ніхто нам не паможа, калі мы самі сабе не паможам. Часовы адрас для карэспандэнцыяў: Вільня, Крулеўская вул. № 3, кв. 8, Беларускі Банк, Курсы.

Вільня ў сьнежні 1935 году.

Урад Віленскага Цэнтральнага Гуртка.



Выдавец-Рэдактар Л. ВОЙЦІКАВА.

Друк. І. Баеўскага. Вільня, Татарская вул. 13.